*Мілагучнае, звонкае, спеўнае слова*



# ВЕРАС



gazeta@veras.f2s.com **Выданне Віцебскай суполкі моладзі «ВЕРАС»** №4(4) травень 2000 г.

# Чарнобыльскі шлях – 2000

Па вуліцах беларускай сталіцы 26 красавіка прайшоў Чарнобыльскі Шлях-2000. Ён стаў самай масавай акцыяй беларускіх дэмакратычных сілаў апошніх год. У акцыі па самых сьціплых падліках, узяло ўдзел больш за 40 тысячаў чалавек.

Людзі выйшлі на вуліцы Менска нягледзячы на ўсе намаганьні ўладаў, якія пастараліся не дапусьціць масавасьці акцыі. Міліцыя затрымлівала распаўсюджвальнікаў улётак і незалежных газэтаў, што ўтрымлівалі інфармацыю аб акцыі, праводзіла канфіскаваньне друкаванае прадукцыі ў офісах актывістаў. У рэшце рэшт, пайшлі на грубае парушэньне закона: гарадзкія ўлады далі дазвол на правядзеньне акцыі літаральна за суткі да яе пачатку, а не за пяць дзён, як мае быць. Гэта, на думку арганізатараў, істотна перашкодзіла распаўсюджваньню інфармацыі пра дазволены характар шэсьця, і, у выніку, як мінімум палова патэнцыйных удзельнікаў Шляха на акцыю не пайшлі.

«Мы — народ! Мы пераможам!» Гэтыя два лёзунгі працягнуліся праз усю плошчу Якуба Коласа падчас збора ўдзельнікаў Шляха.

Ход акцыі асьвятлялі здымачныя групы з Чэхіі, Расеі, Германіі, міжнародныя тэлеканалы, а таксама друкаваныя выданьні і і нфармацыйныя агенствы.

Перад пачаткам руху кіраўнік менскай міліцыі генерал Тарлецкі сказаў, што зараз яго непакоіць толькі надвор'е і ён упэўнены, што акцыя пройдзе мірна

Удзень 26 красавіка на плошчы Бангалёр прайшоў афіцыйны мітынг. На яго ўлады па разнарадцы сагналі некалькі тысячаў чалавек. Некаторыя зь іх прыехалі на плошчу Якуба Коласа, каб прыняць удзел у шэсьці апазыцыі.

Да 18 гадзінаў на плошчы сабралося ўжо каля 20 тысячаў чалавек. На плошчы зьявіліся дзьве вялікія маляўнічыя групы ўдзельнікаў акцыі. Разгарнулі свае плякаты сябры Антыфашыстоўскага дзеяньня, якія традыцыйна прыяжджаюць на Шлях з 1997 года. У 1998 годзе яны былі арыштаваныя за тое, што несьлі вялікі плякат з карыкатурай Лукашэнкі. Антыфашыстоўцы прыяжджаюць на Шлях па запрашэньні Хартыі'97.

Другую групу арганізаваў прэзыдэнт фонду Дзецям Чарнобыля Генадзь Грушавы. Гэта ўдзельнікі дзіцячага фэсту мастацтваў, правядзеньне якога ўлады днямі забаранілі. Больш за сто дзяцей апранутыя ў беларускія нацыянальныя касьцюмы. Яны нясуць шмат транспарантаў з названьнем раённых цэнтраў і ступенькю іх забруджваньня радыяцыяй.




Паступова фармуецца галава калёны. Наперад вынесеная вялікая ікона Божай Маці - патронкі Беларусі. Хутка калёна пачала рух.

Пасьля таго, як хвост калёны пайшоў з плошчы Якуба Коласа, міліцыя затрымала на ёй каля 10 чалавек, якія не хацелі ісьці разам з усімі. Праз некаторы час іх адпусьцілі.

Галава калёны ўжо каля кінатэатра Кастрычнік, а хвост усё яшчэ на плошчы Якуба Коласа. Над калёнай лунаюць нацыянальныя сьцягі і сьцягі дэмакратычных партыяў. Маскоўскія антыфашыстоўцы нясуць агромісты плякат «Твой режим обречен!». У сярэдзіне калёны эўрапейскі сьцяг памерам 5 на 3 мэтры. Малады Фронт насе расьцяжку са сваёй сымболікай. У калёне і вакол яе - шматлікія міжнародныя назіральнікі. Людзі выгукваюць лёзунгі «Жыве Беларусь!», «Незалежнасьць» і іншыя.

Калі калёна зьвярнула на вуліцу Сурганава, у ёй ўжо налічвалася больш за 30 тысяч чалавек. Наперадзе побач зь іконай нясуць Звон Смутку, які жалобным галасам напаўняе вуліцу Сурганава. Калёну ўзначальваюць вядомыя беларускія палітыкі Анатоль Лябедзька, Вінцук Вячорка, Людміла Гразнова, Мікалай Статкевіч, Юры Хадыка і шматлікія іншыя. Побач зь імі ідуць родныя беларускіх палітзьняволеных і зьніклых бязь вестак грамадзкіх дзеячоў, родныя Генадзя Карпенкі.

Неверагодна вялікая колькасьць людзей выйшла 26 красавіка на акцыю. Безумоўна Чаробыльскі Шлях 2000 стаў самай масавай акцыяй беларускае апазыцыі апошніх год. Стала вядома, што Лукашэнка з раніцы ўсяляк абражаў будучых удзельнікаў Чарнобыльскага Шляха. Тут на акцыі бачна, што на вуліцы выйшаў народ. Калёна вельмі разнастайная па сваім складзе. Тут і моладзь і пэнсіянэры, і прадстаўнікі інтэлігенці, бізнэсоўцы.

Прыкладна а 20.00 на плошчы Бангалёр пачаўся мітынг. Слова бяруць палітыкі «новай хвалі», якія вітаюць усіх, хто прыйшоў на акцыю. Яны выказваюць захапленьне людзям, якія выйшлі на вуліцы, нягледзячы на ўсе запужваньні і высілкі ўладаў не дапускаць масавасьці Шляха: «На спрабуюць паставіць на калені, але мы прыходзім сюды, каб сказаць «Не! Мы пераможам» Мы - народ!».

У рэзалюцыі мітынга, у прыватнасьц,і гаворыцца: «Незалежная і свабодная Беларусь у садружнасьці эўрапейскіх нацыяў здольная мінімізаваць наступствы Чарнобылю... Мы Патрабуем ад Расеі поўнае кампэнсаці за пакуты беларускага народу ад Чарнобылю... Рэжым, які замест таго, каб ратаваць людзей, зноў прымусіў іх жыць і выробляць харчовыя прадукты на забруджаных тэрыторыях - злачынны й мусіць сысьці».

З трыбуны таксама паведамілі, што 26 красавіка ў абласных і раённых гарадох - Берасьці, Гомлі, Пінску, Віцебску, Гародні і і ншых - прайшлі жалобныя акцыі, удзельнікі якіх узгадвалі Чарнобыль малітвамі і звонам званоў.

Арганізатары акцыі ацанілі яе як сваю перамогу. Улада была вымушаная адступіць перад націскам апазыцыі і міжнароднага ўціску і дазволіць уладам і дазволіць шэсьце 26 красавіка.

***(працяг на ст. 2)***

# Чарнобыльскі шлях – 2000




На фоне ўсеагульных забаронаў і нагнятаньня атмасфэры страху і падпарадкаваньня гэта ўжо ня мала. Шлях - гэта рух да будучыні. Як сказаў з трыбуны мітынга адзін з выступоўцаў, любая наступная акцыя можа стаць апошняй для гэтага беларускага рэжыма.

Асноўная частка дэманстрантаў рушылася з плошчы Якуба Коласа ў 18.20, але на плошчы засталіся сабры Кансэрватыўна-Хрысьціянскае партыі, якія былі нязгодныя з дазволеным маршрутам. А таксама на плошчы засталіся назіральнікі беларускіх і міжнародных праваабарончых арганізацыяў. Сябры ХКП правялі на плошчы свой асобны мітынг і аб'явілі хвіліну маўчаньня. У 18.40 на плошчы зьявіліся служачыя ўнутраных войскаў і спэцназ, якія сталі разганяць мітынг. На вачох прадстаўніка місіі АБСЭ Георга Віка і на-










зіральніка ПЦ «Вясна» Барыса Гюнтэра быў затрыманы сямнаццацігадовы жыхар горада Горкі Андрэй Ануфрыяў. Па папярэдніх зьвестках ПЦ «Вясна» быў затрыманы непаўналетні Аляксандар Атрошчанкаў, а таксама - Жураўчык Зьміцер і Сацупа Андрэй.

Пасьля мітынга на плошчы Бангалёр былі арыштаваныя мікрааўтобусы з апаратурай, якія разам з людзьмі, якія знаходзіліся ў іх, былі дастаўленыя ў РАУС Савецкага раёна. Сярод затрыманых з мікрааўтобусамі - Алесь Кавалец (адказны сакратар управы БНФ «Адраджэньне»), Ляпарскі Яуген, Лявон Мірановіч, Кастусь Тамковіч, Артур Лашкевіч, Уладзімір Рыжкоў. Бліжэй да дванаццатай гадзіны ночы затрыманых выпусьцілі, апаратуру вярнулі.

Усе затрыманыя на працягу некалькіх гадзінаў знаходзіліся ў памяшканьні Савецкага РАУС, пры гэтым ніякіх пратаколаў на іх не складалася і прычыны іх затрыманьня не тлумачыліся.

***Па матэрыялах Хартыі'97***

# Нізка навінаў

Наваполацкі Кардынацыйны Савет Свабоднага прафсаюза зьвярнуўся да сваіх сяброў зь незвычайнай ініцыятывай: кожны дзень з 21.00 да 22.00 рабіць прагулкі ў раёне центральнай гарадской плошчы Будаўнікоў. Прафсаюзныя лідары растлумачылі неабходнасць гэтых прагулак тым, што ў гэты час БТ трансьлюе праграму «Панарама», якую з-за неаб'ектыўнасьці і аднабаковай падачы інфармацыі яны ня раюць глядзець. ўніцыятары раюць сябрам прафсаюзу ў гэты час сустрэцца з сябрамі, даведацца пра гарадскія навіны, абмяркаваць падзеі ў краіне.

Валанцёры рэспубліканскага праекта «Змяненьне сексуальных паводзінаў насельніцтва Рэспублікі Беларусь» пачалі актыўную прапагандыстскую работу ў Віцебску. У горадзе на Дзвіне адкрыўся інфармацыйны центр «Грань», галоўны прынцып працы якога «Моладзь - моладзі». Цэнтр праводзіць адукацыйныя сэмінары для хлопцаў і дзяўчат па пытаньнях прафілактыкі ВІЧ-інфекцыі, бяспечным сексуальным паводзінам. Для так званых груп павышанай рызыкі: наркаманаў і ператыканак арганізаваны бясплатныя кансультацыі ў венеролята, псіхолага, сацыяльнага работніка. Любы жадаючы можа атрымаць прафесійную кансультацыю па пытаньнях прафілактыкі ВІЧ і інш., патэлефанаваўшы па тэл. 24-95-82. «Гарачая лінія» працуе кожны дзень, акрамя выхадных, з 16.00 да 18.00. Таксама тыя, каму не абыякавыя гэтыя праблемы, маюць магчымасць паўдзельнічаць у гэтым праекце.

Некалькі дзён таму на Старасямёнаўскіх могілках у Віцебску апаганена могілка Юрыя Пэна, беларускага жывапісца і настаўніка Шагала. Невядомыя скралі бронзавы бюст мастака і шыльдачку з таго ж метала. А ўначы 12 красавіка варвары «пагаспадарылі» ў Аршанскім раёне. Са сьцяны дома-музея Янкі Купалы ў Леўках знік барэльеф з алюмініевага сплава...

У Віцебску невядомыя зламысьнікі закідалі Латвійскае консульства яйкамі, напоўненымі фарбай. Зь месца здарэньня ўсе хуліганы хутка скрыліся, матывацыя іх дзеяньняў засталася незразумелая. Мясцовая пракуратура узбудзіла крымінальную справу.

У мінулы вайсковы прызыў у ваенкаматах Віцебскай вобласьці не зьвілася каля 20 працэнтаў вайсковаабавязаных, гэта звыш васьмісот чалавек. Прыблізна палова зь іх міліцыяй былі знойдзеныя досыць хутка, але на 250 «ухіляністаў» да гэтага часу аб'яўлены росшук; астатнія ці зьявіліся самі, ці ўсё ж такі захварэлі. У гэты прызыў, які ўжо распачынаецца і будзе завершаны ў першай палове ліпеня, па Віцебшчыне плянуецца разаслаць 4800 павестак, аднак казаць пра зьніжэньне колькасьці ўцекачоў вайскоўцы асаблівага аптымізму ня маюць.

У нядзелю аргкамітэт па правядзеньню Трэцяга Усебеларускага Зьезду правёў сваё чарговае паседжаньне. Нагадаем, што зь ініцыятывай правядзеньня зьезду ў канцы лютага выступіў шэраг вядамых дзеячоў навукі і мастацтва. Вынікам зьезду мусіць стаць дэкларацыя, якая канчаткова сьцьвердзіць, што незалежнасьць Беларусі ёсьць найвышэйшай каштоўнасьцю і заклікаць грамадзтва Беларусі спыніць «здрадніцкі працэс здачы суверэнітэту». Аднак аргкамітэт, у які ўваходзіць больш за 40 прадстаўнікоў палітычных партыяў і грамадзкіх арганізацыяў, так і не прыйшоў да адназначнага рашэньня аб даце правядзеньня Зьезду. Частка, у асноўным прадстаўнікі рэгіянальных арганізацыяў, нават дэманстратыўна пакінула залю паседжаньня. Рашэньне аб правядзеньню Зьезду ў дзьвюх сэсіях стала кампрамісным. Перашая сэсія Усебеларускага Зьезду адбудзецца 17-18 чэрвеня, другую плянуецца правесьці напачатку восені.

На днях на адной з цэнтральных вуліцаў Гомеля сярод белага дня міліцыя затрымала дзьвух дзяўчат. Стаўшых з пачаткам вясны асабліва «уважлівымі» да «слабога» полу, супрацоўнікаў праваахоўных органаў занепакоілі занадта кароткія спадніцы затрыманых.

Сябры «Беларускага цэнтру», які аб'ядноўвае беларускіх уцекачоў у Бэльгіі, правялі пікет супраць парушэньня правоў чалавека ў нашай краіне. Адбываўся пікет каля будынку Эўрапарляманту. На плякатах пікетоўшчыкаў былі заклікі да парлямэнтараў прымусіць расейскі ўрад спыніць падтрымку рэжыму Лукашэнкі. Пікетоўшчыкі здолелі зьвярнуць на сябе ўвагу і нават правесьці размовы зь некаторымі прадстаўнікамі Эўрапарлямэнту. Супрацоўнікі ж беларускай амбасады выказалі сваю нэгатыўную рэакцыю да гэтай падзеі.

У Віцебску адбылася сустрэча лідэраў моладзевых дэмакратычных ініцыятываў з прадстаўнікамі радыкальных лібіралаў з Расейскага Рэвалюцыйнага Камітэту. Госьці распавялі пра дзейнасьць іх аб'яднаньня й пра сучасны стан расейскай дэмакратыі. Вынікам візіту могуць стаць сумесныя дзеяньні сябраў РРК і віцебскае моладзі супраць ваеннае агрэсыі ў Ічкерыі. Сустрэча была праведзеная па ініцыятыве сябраў Віцебскае суполкі моладзі «Верас».

6-7 траўня ў Віцебску прайшоў сэмінар Цэнтра Моладзевых ўніцыятываў «Контур» (kontur@vitebsk.net) «Інфармацыйныя рэсурсы ў журналістыцы». На сэмінар былі запрошаныя прадстаўнікі больш чым дзесяці моладзевых выданьняў зь Віцебску і Віцебскае вобласьці. Асноўнай тэматыкай трэнінгу было вывучэньне шляхоў пошуку інфармацыі ў сучасных умовах. Сур'ёзная ўвага надавалася практычнаму вывучэньню рэсурсаў Інтэрнэта. Вялі семінар Тацьцяна Усава (IREX pro Media) і Васіль Брус (газэта «Витебские деловые новости»).

5 траўня ў Віцебску ў начным клюбе «Сава»адбылася прэзентацыя часопіса «Arche», якая была зладжаная пры дапамозе Цэнтра моладзевых ініцыятываў «Контур» (kontur@vitebsk.net) і Віцебскай суполкі ЗБС. Напярэдадні імпрэза шырока рэклямавалася ў горадзе: разьвешваліся афішы, былі дадзеныя аб'явы ў мясцовай прэсе й на тэлебачаньні. Прэзентаваць сваё выданьне прыехалі галоўны рэдактар Валерка Булгакаў, дырэктар Андрэй Дынько й сябра рэдкалегіі Анатоль Прасаловіч. У залі клюба сабралася каля ста маладых людзей, якія актыўна удзельнічалі ў размове з гасьцямі. Напрыканцы імпрэзы госьці выказалі шчырае жаданьне наведаць горад яшчэ раз у бліжэйшай будучыні. Пасьля сустрэчы прайшоў канцэрт менскага гурта «Цмокі».

Некалькі тыдняў назад Наваполацкія ўлады праявілі незвычайную арыгінальнасьць: помнік Леніну, які мясьціўся на адпаведнай плошчы, канешне ж галоўнай у горадзе, быў пафарбаваны ў блакітны колер. Можна толькі паспачуваць уладам горада, фінансавае становішча прымушае эканоміць на фарбе, бо, як вядома, белая фарба каштуе некалькі даражэй за ўсе астатнія.

Апошнім часам узмацніўся ціск спэцслужбаў на ўдзельнікаў моладзевага адраджэнскага руху ў Воршы. На мінулым тыдні перад навучэнцамі Аршанскага механіка-тэхналягічнага тэхнікума выступіў супрацоўнік КДБ Сяргей Мацюхін, каторы распавёў прысутным

*(працяг на ст. 4)*

аб небясьпецы ўдзелу ў дзейнасьці няўрадавых арганізацыяў Воршы, такіх як ЗБС, Маладады Фронт, «Зьвяз», адкрыта пагражаў зьніжэньнем адзнакаў на іспытах сябрам НДА. Напрыканцы сустрэчы Мацюхін пакінуў усім нумары тэлефонаў, па якіх студэнты могуць зь ім зьвязацца, і параіў усім лепей вучыцца, а не «заниматься глупостями». Такі беспрэцэдэнтны крок супрацоўніка КДБ стаўся вынікам папярэдніх падзеяў у Воршы: актывізацыяй дзейнасьці няўрадавых арганізацыяў, узбуйненьнем маладзёвага адраджэнскага руху, развалам БПСМ у буйнейшым тэхнікуме горада пад уплывам дзейнасьці мясцовай суполкі ЗБС (zbs@orsatbm.lingvo.vitebsk.by).

Як паведаміла прэсавая група БНФ (press@cscsc.lingvo.minsk.by), на першамайскім мітынгу ў Магілёве затрыманыя ня менш за 14 чалавек. Нягледзячы на тое, што мітынг быў санкцыянаваны, ягоных удзельнікаў затрымлівалі й абшуквалі супрацоўнікі міліцыі. Некаторыя грамадзяне (сярод іх і сябры мясцовай дэмакратычнай апазыцыі) былі затрыманыя яшчэ на падыходзе да пл. Леніна да пачатку мітынгу й дастаўленыя ў Цэнтральны РАУС. Там на іх склалі пратаколы за быццам бы непадпарадкаваньне супрацоўнікам міліцыі. Затрымалі таксама й журналістаў, да якіх ужылі гвалт. Карэспандэнту газэты «Де — факто» Ігару Ірхо разьбілі фотакамэру і нанесьлі цяжкія цялесныя пашкоджаньні. Чацьвёра ўдзельнікаў мерапрыемства атрымалі позвы ў суд на сераду, 3 траўня. А мерапрыемства, заяўленае працоўнымі і ветэранскімі арганізацыямі, сабрало каля 3 тысячаў чалавек і прайшло пад дзяржаўнымі сьцягамі і партрэтамі Лукашэнкі.

Сёньня ўночы ля Гарадзенскай Управы БНФ былі затрыманыя два чалавекі, якія выбілі шкло ў памяшканьні. Гэта ўжо сёмы падобны выпадак за апошнія некалькі тыдняў. Нагадаем, што адзін зь лідэраў Гарадзенскага БНФ неаднаразова падаваў скаргі ў суд на сябраў мясцовага «РНА», бо падазрае, што менавіта яны займаюцца гэтымі рабаўніцтвамі. На дадзены момант асобы затрыманых высьвятляюцца.

28-га красавіка Віцебскую суполку Задзіночаньня Беларускіх Студэнтаў наведала прадстаўніца Эўрапейскага Зьвязу Студэнтаў галяндка Марлоўс Велдт. Галяндская госьця азнаёмілася зь дзейнасьцю Віцебскае суполкі, сустрэлася з прадстаўнікамі іншых моладзевых ініцыятываў. На сустрэчы Марлоўс распавяла пра студэнцкія арганізацыі ў Нідэрляндах, пра студэнцкае самакіраваньне ў Эўропе. Вынікам візіту можа стаць аргнізацыя сэмінараў па студэнцкім самакіраваньні ў Віцебску.

Перад першамаем пяціклясьнікі крычаўскай сярэдняй школы нумар 5 не наведвалі урокі. Пад кіраўніцтвам настаўніка фізкультуры малыя заўзята шпацыравалі вакол будынку школы - поўнай хадой ішла падрыхтоўка да першамайскай дэманстрацыі: хлопчыкі размахвалі стракатымі стужкамі, а дзяўчынкі - бразготкамі. Дарэчы, загадчык Крычаўскага РАА Зоя Дудыка катэгарычна заяўляе, што школьная адміністрацыя ня мусіць здымаць дзяцей з заняткаў з-за падрыхтоўкі да дэманстрацыі, але факт застаецца фактам - вучні пятых клясаў СШ 5 цугам хадзілі каля роднай навучальнай установы.

***BARC ID-list***

Нядаўна адбыўся суд над Юрасём Земляковым, пра якога мы ўжо паведамлялі ў мінулых нумарах бюлетэня. Нагадаем, ён абвінавачваўся ў дробным хуліганцтве (дакладней, маляванні антыпрэзідэнцкіх лозунгаў на сценах). Суддзя Зазуля Г.М. прызнала хлопца вінаватым і прызначыла яму штраф у памеры аднаго мінімальнага заробка. На працэс не быў дапушчаны прадстаўнік праваабарончай арганізацыі «Вясна».

***Ул. кар.***



*Віншуем сябра ВСМ «Верас» Андрэя Парфёнава з 18-годзьдзем! Жадаем посьпехаў на ўсіх франтах, шчырых сяброў, чыстага каханьня, і ўсяго самага найлепшага!* ☺

# ПІШАМ ТАРАШКЕВІЦАЮ

## *10 памятак беларускага правапісу*

*Апошнім часам да рэдакцыі «Вераса» зьвярнуліся каля дзесяці нашых чытачоў з пытаньнем наконт «мяккага знака» — незвычайнай для іх граматыкі беларускай мовы. Ніжэй мы друкуем артыкул В. Вячоркі, які адкажа на ўсе пытаньні. У наступных нумарах плануем працягнуць дадзеную тэму.*

Да 30-х гадоў беларускі правапіс развіваўся паступова й натуральна. Стыхійны адбор лепшых напісаньняў ішоў да 1918 года, калі Браніслаў Тарашкевіч упарадкаваў правапіс і граматыку. Сыстэма тарашкевіцы ўдакладнялася, пашыралася працамі іншых навукоўцаў (Язэп Лёсік, Ян Станкевіч), супольнаю думкаю беларускіх мовазнаўцаў (Акадэмічная канферэнцыя по рэформе беларускага правапісу і азбукі, Менск, 1926).

У БССР правапіс і граматыка Тарашкевіча былі ў 1933 годзе скасаваныя ды замененыя - зьнянацку, гвалтам, пры вымушаным маўчаньні навуковае грамады - на зрусыфікаваныя. На тое была адпаведная пастанова «Совнаркома». У Заходняй Беларусі, на эміграцыі ўвядзеньне наркомаўкі сустрэлі пратэстамі й надалей пісалі паводле Тарашкевіча, паводле жывое мовы. Асобныя непасьлядоўнасьці (правапіс "й", "ў"; правапіс чужаземных словаў з дыфтонгамі) парадкаваў Антон Лёсік, а на эміграцыі - Ян Станкевіч, Валянтына Пашкевіч, іншыя.

Наркомаўка розьніцца ад тарашкевіцы найперш адарванасьцяй ад жывое мовы й клясычнае традыцыі беларушчыны. Рэформа 1933 года жывасілам увяла ў нашую мову неўласьцівыя ёй граматычныя формы й нават вымаўленчыя правілы. Зьмянілі слоўны запас, касуючы самабытнае ды ўводзячы «объединяющее», зьмянілася нават будова сказаў. Таму, каб вярнуцца да жывое тарашкевіцы, замала толькі пісаць і вымаўляць па-тарашкевічаўску, па-купалаваму. Але з чагось пачынаць трэба. Зручней - з правапісу.

ДЗЕСЯЦЬ ПАМЯТАК - для тых, хто ўмее пісаць наркомаўкай. Яны датычаць толькі правапісу (не граматыкі, г.зн. зьмены словаў). Тарашкевіца прасьцейшая ад наркомаўкі, бо ў ёй нашмат менш выклю-

чэньняў, да яе амаль заўсёды стасуецца прынцып «як чуваць, гэтак пішацца - і наадварот». Толькі бяда, што дзесяцігодзьдзі панаваньня наркомаўкі прывучылі многіх вымаўляць беларускае слова няслушна: чэШСкі, нЕ буду (трэба: чэскі, ня буду - прасьцей і больш сьпеўна). Але праз тарашкевіцу ёсьць шанец вярнуць нашай мове спрадвечную мілагучнасьць.

1. Мяккі знак, як і належыць, пазначае мяккасьць: сьвята, абедзьве, празь мяне, цьвёрды, сьцьвердзіць у Фроньце ды ў Кліўленьдзе.

Пасьля С З Ц ДЗ Н "Ь" пішацца перад мяккімі зычнымі, апроч Г К Х.

(Нагадаю: мяккія будуць тыя зычныя, за якімі йдуць І Е Ё Ю Я Ь).

СЬвіснуў, але скінуў; раСЬлі, але беларускі. ЗЬ Лёдзяю, але з Лукашом, з Кірпатрыкам.

2. Разьдзяляльны мяккі знак пішам пасьля С З Н Л перад Е Ё Ю Я, а таксама І, калі яно пад націскам: бязьядзерны, зьеду, пасьянс, маньяк, зь імі ці бязь іх.

3. Доўгія мяккія гукі пішам празь мяккі знак: калосьсе, палозьзе, судзьдзя. Ня тычыцца прыставак на Д: ад-дзел, ад-цеміць.

4. Зьбегі зычных пішуцца як чуваць: чэх - чэСкі, Парыж - парыСкі, у Рызе -рыСкі. Узбэцкая й КазаСкая рэспублікі. ГагауСкая праблема.

Увага: швэд-скі вымаўляем «швэцкі», але замест глухога Ц пішам звонкае ДЗ: швэДЗкі, гараДЗкі, ірляндЗкі.

Пішам як чуваць: еЖДЖу, пяШЧаны, пакаШЧык (варыянт А.Лёсіка і Я.Станкевіча). Я сьмяюся - ты сьмяесься.

Ня тычыцца прыставак і прыназоўнікаў: сшытак, разжыўся, бяз Чорнага.

5. У І заўсёды скарачаюцца пасьля галосных, калі перад імі няма прыпынку й на іх ня падае націск: на Ўкраіне, на ймя, Ганна йшла, ва ўнівэрсытэце, я й кажу, на Йвана, Тайлянд, аўдыякасэта, Модраў з Чаўшэску. Увага: калёквІЮм, кансылІЮм.

6. Чужаземныя (заходня-эўрапейскія) словы маюць Л мяккае, як і ў тых мовах, адкуль яны прыйшлі: лямант, акуляры, калёна, плян, клямка, плюралізм, клюб, мэталь, дэталь.

Увага: у канцы слова можа быць Л цьвёрдае: генэрал.

У расейскай мове тут непасьлядоўнасьць: Финляндия - Голландия, люмпен - луза, бо словы йшлі праз кнігу. На Беларусь жа заходнія словы, найперш лацінскія й нямецкія, прапляплі праз жывы кантакт з носьбітамі гэтых моваў, праз масавае вывучэньне тае ж лаціны ў сярэднявечнай школе.

7. З гэтае ж прычыны ў чужаземных (заходня-эўрапейскіх) словах пасьля зычных, акрамя Л і К, пішам Э: пэрыяд, мэтар, сэрвіс, праспэкт, газэта. Але: анкета.

Увага: пасьля Г і Х можа пісацца Е: хЕўра й хЭўра, гЕнэрал і гЭнэрал.

У чужаземных словах пасьля З С Д Т пішацца й вымаўляецца Ы: сынонім, дыктар, максымум, Бразылія.

Увага: -зія, -сія, -зійны, -сійны пішацца праз І: калізія, камісійны, сэсія.

Варта зацеміць таксама: нактурн, мініятура, Эўропа, эўрапейскі, нэўтральны.

8. Вымаўляецца й пішацца -ТАР, -ДАР у словах: тэатар, мэтар, літар, кадар, монстар і падобных. Але: 36 кадраў.

Варта зацеміць: нэрва, інтэрвію.

9. Пасьля У вымаўляецца й пішацца В перад А: у вадзін вагон, у варанжавым сьвятле, у Вангельшчыне.

10. Е пераходзіць у Я ў першым складзе перад націскам у НЕ й БЕЗ, нават калі яны пішуцца асобна: бяз волі, ня прыйдзеш; але: без ахвоты, не вызначальны.

Тарашкевіца мае пэўныя іншыя правілы артаграфіі, напрыклад, досыць складанае правіла пераходу Е ў Я (цяперашняе афіцыйнае - зручнейшае), дэталі пададзеных тут правілаў. Мы ж падалі найважнейшае, дастатковае для таго, каб пісаць тарашкевіцаю. Наступны адцінак прысьвяцім граматыцы.

***Вінцук ВЯЧОРКА***

# ПАД'ЕЗДЫ, УНІТАЗЫ, РАДЫЯТАРЫ...

## *Наватворы ў суседзяў*

XX стагодзьдзе для моваў сьвету адзначылася сапраўдным патопам новых словаў. Тэхналёгія, культура, цывілізацыя, штодзённае жыцьцё людзей пачалі разьвівацца такім шпаркім тэмпам, што новыя зьявы, ідэі, прадметы ўзьнікалі і ўзнікаюць штодзённа, штохвілінна — толькі пасьпявай называць.

XX стагодзьдзе сталася векам называньня, залатым векам моваведаў-лексыколягаў, перад якімі адкрыліся бязьмежныя абсягі дзеяньня. Зрабіць сваю мову адэкватнай усяму навакольнаму сьвету, выказаць яго суладна з гукамі й настроямі роднага слова, каб гэты сьвет празь яго як найлепей надаваўся да ўтульнага ў ім існаваньня. Засвоіць яго, наблізіць да сябе, зрадніцца зь ім праз мову.

Па цікавыя прыклады гэткага творства ня трэба хадзіць далёка. Амаль усе нашыя суседзі ў XX стагодзьдзі ў працэсе называньня новага актыўна праводзілі палітыку моўнага пурызму — гэта значыць, спрабавалі абысьціся сваімі ўласнымі сродкамі, не за-пазычаючы словаў зь іншых моваў, каб захаваць сваю самабытнасьць і непаўторнасьць у маляўнічай markerрознакалёрнасьці сьвету.

Працэс моватворчасьці звычайна адбываўся паралельна з палітычным разьвіцьцём нацыі — ён актывізоўваўся ў часы барацьбы за незалежнасьць і наступнага ўмацаваньня і разьвіцьця нацыянальнай дзяржаўнасьці. У апошнім выпадку гарантам аховы мовы ставала сама дзяржава.

Галоўным клопатам моватворцаў заўсёды было супрацьстаяць уплыву пануючай на працягу стагодзьдзяў культуры — нямецкай у чэхаў, польскай і расейскай — у літоўцаў, нямецкай і расейскай — у эстонцаў. Сродкі ўжываліся розныя. Найперш актывізаваліся ва ўжытку старыя і даўно забытыя словы, пераглядаліся багацьці народных гаворак, а таксама ўтвараліся новыя словы ад наяўных каранёў. Так, прыкладам, чэская мова займела шмат сваіх спэцыфічных словаў, якіх няма ў іншых мовах. (Памятаю, як аднойчы зь сябрамі мы спрабавалі адкаркаваць бочку з чэскім півам, але ня здолелі разабраць інструкцыі, дзе ўсе словы былі спрэс славянскія. Давялося прапароць бочку нажом і абліцца півам з ног да галавы.) Чэхі няшчадна перакладалі й перакладаюць звыклыя нам інтэрнацыяналізмы: цэнтральны камітэт — ustredni vybor, патрыёт — vlastenec, радыё — rozhlas, нумар — cislo, кампутар — pociiac, файл — soubor...

У польскай мове хваля пурызмаў была меншая, аднак, прыкладам, цалкам спольшчаная некалі была ўся тэхнічная тэрміналёгія, у якой амаль не знайшлося месца

***(працяг на ст. 4)***

# ПАД'ЕЗДЫ, УНІТАЗЫ, РАДЫЯТАРЫ...

## *Наватворы V суседзяў*

***(працяг)***

нямецкім, французскім ці ангельскім тэрмінам, якія, прыкладам, прыжыліся ў расейцаў, дзе пурызм заўсёды лічыўся нечым непрыстойным. Вось жа дроссель у палякаў — dlawik, парашут — spadochron, танк — czolg, а шарыкападшыпнік — lozysko kulkowe .

Літоўская мова дагэтуль спрабуе супрацьстаяць наплыву барбарызмаў, і адмысловая моўная камісія пры Літоўскім Сойме, прыкладам, рэкамэндуе замест чужынскіх гамбургер і гот-дог ужываць наватворы mesainis і desrainis, што па-нашаму больш-менш гучала б як мясень і каўбасень. Прыгожае слова прыдума-на для гелікоптэра — malunsparnis, млынакрыл.

Самыя дзівосныя рэчы адбываліся ў эстонскай мове, дзе на дачатку XX ст. актыўна ўжываўся самы рэдкі спосаб словатворчасьці — стварэньне каранёў зусім з галавы. Так узьніклі звычайныя сёньня словы relv — зброя ці laip — нябожчык. А ў 60-я гады Таварыства Эстонскай Мовы пачало нават рэгулярна абвяшчаць конкурсы на стварэньне новых словаў, у якіх бяруць удзел самыя шырокія колы грамадзтва. Што цікава — шмат якія з прыдуманых словаў прыжываюцца, накшталт reabe — інфармацыя, або raai — ЭВМ. Апошняе слова, дарэчы, таксама ўзята з галавы. Проста гучыць прыгожа і па-эстонску.

Якім было XX стагодзьдзе ў беларускай мове, відаць, доўга тлумачыць ня трэба. За выняткам 20-х гадоў, калі палітыка і мова ў нас ішлі больш-менш поплеч і адбываліся падобныя да апісаных вышэй працэсы, беларуская мова не жыла паўнакроўным жыцьцём дзяржаўнай мовы нацыянальнай дзяржавы. Яе ў шматлікіх функцыях замяніла расейская, і ў штодзённым жыцьці беларусы назіралі за расейскімі працэсамі новага называньня. У афіцыйную, дэкарацыйна-сувэнірную беларускую мову фактычна ўсе слоўныя навіны стагодзьдзя аўтаматычна пераносіліся з мовы расейскай, таму складаньне тэрміналягічных слоўнікаў часта ператваралася ў практыкаваньне ў фанэтыцы — трэба было толькі запісаць расейскае слова па-беларуску.

Калі ў 70-80-х гадох літаратурная, гарадзкая беларуская мова зноў рэальна зажыла ў новых жывых беларускіх колах, пачалася і моватворчасьць, прадыктаваная патрэбамі штодзённага жыцьця. Так, паводле прынцыпу «абы не па-расейску», пачалі запускацца слоўцы накшталт «пляшка» замест «бутэлька», «гаўбец» замест «балкон», «лейцар» замест «штопар», «крама» замест «магазін», «чыюк» замест «папугай» ды шмат чаго іншага. Словы «сьвятар», «спадар», «выканкам», «тэлефанаваць» ад тых часоў пачалі гучаць нават у афіцыйных радыё і тэлевізіі ды нават трапілі ў слоўнікі. У ранейшых слоўніках такіх словаў або не было зусім, або яны пазначал-іся абласнымі, састарэлымі, прастамоўнымі.

Аднак моваабнаўленьне XX стагодзьдзя ў беларускай мове так і не рэалізавалася поўнасьцю. Лексычнае наватарства не спынілася і магло б стацца цікавай тэмай культурнага дыскусу. Колькі прадметаў і паняцьцяў нашага штодзённага побыту яшчэ чакаюць свайго прыдатнага беларускага найменьня — усе гэтыя «батарэі ацяпленьня», «унітазы», «пад'езды», «лесьвічныя пляцоўкі». Аднаўленьне сусьвету ў беларускай мове — прыгожая справа для новага тысячагодзьдзя.

***Сяргей Шупа, «Наша Ніва»***

Фота з кнігі «Чарнобыль»

# ГАЛЕРЭЯ







# Слоўнічак

Нядаўна мне ў рукі трапіў «Расейска-беларускі вайсковы слоўнік» аўтараў Станіслава Судніка і Сяржука Чыслава, які ўтрымлівае каля 8000 словаў. Яго можа з задавальннем пагартаць і звычайны цывільны, не кажучы ўжо пра вайскоўцаў. Праца над кнігай была распачата яшчэ ў 1992 годзе, калі Узброеныя Сілы Рэспублікі Беларусь пачалі звяртацца да беларускай мовы. У працэсе ўкладання слоўніка ў 1993 годзе быў выдадзены скарочаны яго варыянт «Кароткі расейска-беларускі вайсковы слоўнік», які ўтрымліваў каля 1000 словаў. Даводка ж поўнага слоўніка працягвалася. Аднак пасля сумнавядомага рэферэндума дзяржаўная патрэба ў выданні знікла, і стала цяжка надрукаваць ужо гатовы поўны слоўнік. Таму аўтары мусілі прыняць грашовую дапамогу ад Таварыства беларускай мовы, і толькі пасля гэтага здолелі выдаць яго невялікім накладам (1300 асобнікаў). Чытачы могуць здзівіцца: «А нашто было ў гэты час выдаваць гэткую кнігу? У бягучых умовах вайсковае камандаванне, зразумела, ніколі не будзе пераводзіць статутныя зносіны, каманды на беларускую мову...» Але самі аўтары даюць у прамове такі адказ: «... ва ўмовах апошняга часу шмат у каго апусціліся рукі. Але пасля зімы заўсёды наступае вясна. Ды што будзе толку ісці на вясновае поле, калі са страху ці адчаю перад халадамі не сеяў восенню». І падмацоўваюць свае словы народнай мудрасцю: «Паміраць збірайся, а жыта сей». Ад сябе можна дадаць, што Сяржук Чыслаў, суаўтар слоўніка, з'яўляецца кіраўніком моладзевай спартова-патрыятычнай арганізацыі «Белы легіён», і можна ўпэўнена сказаць, што там карыстаюцца менавіта той тэрміналогіяй, што пададзена ў дадзеным слоўніку. Безумоўна, шаноўны чытач чакае ў гэтым артыкуле вытрымак са слоўніка, таму не будзем вас расчароўваць. Ніжэй прыведзеныя некаторыя каманды на расейскай і беларускай мовах:

| **расейскае** | **беларускае** |
|---|---|
| Бегом - МАРШ | Бягом - РУШ |
| ВНИМАНИЕ, ДЕЛАЙ, ЧТО Я! | УВАГА, ЧЫНЬ, ШТО Я! |
| В одну шеренгу - СТАНОВИСЬ! | У адну шарэнгу - ЗБОРКА! |
| ВОЛЬНО! | СПАЧНІ! |
| В РУЖЬЁ! | ЗА ЗБРОЮ! |
| ВСЕ КРУГОМ! | Усе тыл - ФРОНТ! |
| ВЫЙТИ ИЗ СТРОЯ! | ВЫЙСЦІ З ШЫХТУ! |
| ЕСТЬ! | РЭЙ! |
| ЗАПРАВИТЬСЯ! | Рыштунак да - ЛАДУ! |
| ЗАРЯЖАЙ! | НАБІВАЙ! |
| ЗА СПИНУ! | ЗА ПЛЕЧЫ! |
| Здравия желаем! | Вітаем! |
| Здравствуйте, товарищи! | Вітаю спадарства! |
| ИДТИ В НОГУ! | РОЎНЫ КРОК! |
| К но - ГЕ! | Зброю - СТАЎ! |
| Кру - ГОМ! | Тыл - ФРОНТ! |
| Нале - ВО! | Лева - ФРОНТ! |
| На первый и второй - РАСЧИТАЙСЬ! | На першы і другі - ЛІЧЫ! |
| Никак нет! | Не! |
| ОТСТАВИТЬ! | ЗВАРОТ! |
| ПРИНЯТЬ ВПРАВО! | ПРАВА ЗБОЧ! |
| ПРЯМО! | НАЎПРОСТ! |
| РАВНЯЙСЬ! | РАЎНУЙ! |
| РАЗОЙДИСЬ! | РОСКІД! |
| СМИРНО! | ЗВАЖАЙ! |
| СТАНОВИСЬ! | ЗБОРКА! |
| УРА! | РУБОН! |
| ШИРЕ ШАГ! | ДОЎГІ КРОК! |

Слоўнік выдадзены на 250 старонках, у мяккай вокладцы, каштуе зусім мала. Набыць яго ў кнігарнях немагчыма. Мы куплялі ў сядзібе БНФ у Менску (Варвашэні, 8). Пэўна, у офісах Таварыства беларускай мовы ён таксама ёсць. Раім вам не прапусціць шанца і, пакуль яшчэ засталіся асобнікі, замовіць гэтую каштоўную кнігу.

*Яраслаў Манцэвіч, спецыяльна для «Верас»*

# СМУТКУ











*Перад вамі сапраўдная паштоўка, выдадзеная ў 1981 г.*

*Зьвярніце ўвагу на колькасьць рэвалюцыйных гвазьдзікоў...*

Паніч сустракае на дарозе вясковую дзяўчыну, што вядзе старую кабылу ды весела сьпявае.

- Цябе нехта пацалаваў, пэўна, што ты такая вясёлая, - кажа паніч.

- А ці ж пацалунак дадае весялосьці? - цікавіцца дзяўчына.

- Вядома, што дадае,- заляцаецца паніч, - асабліва, калі «ён» пацалуе «яе».

- Калі так, то няхай паніч пацалуе маю кабылу, бо яна дужа маркотная.

* * *

Сустракаюцца два сябры:

- Прывітаньне!
- Здароў!
- Дзе працуеш?
- У банку - махляром. А ты?
- У шапіку - сьмярдзючым сьнікершчыкам.
- А жонка дзе?
- На кірмашы - «вшывай блахой».
- І мая таксама.

* * *

З трыбуны:

Я чалавек отшэнь добры і тьвёрда аб'яшчаю: і жыць ня будзеце і ўмярэць ня дам.

***вераб'іны тачок***

## БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ ГІМН

Мы выйдзем шчыльнымі радамі
На вольны родны свой прастор,
Хай воля вечна будзе з намі,
А гвалту мы дамо адпор,
дамо адпор.

Няхай жыве магутны, сьмелы
Наш беларускі родны дух,
родны дух,
Штандар наш бел-чырвона-белы,
Пакрый сабой народны рух.

На бой за шчасьце і за волю
Народу слаўнага свайго,
Браты, цярпелі мы даволі
На бой усе да аднаго,
да аднаго.

Імя і сілу беларуса
Няхай пачуе й бачыць той,
Хто сьмее нам нясьці прымусы
І першы выкліча на бой!

Браты, да шчасьця мы падходзім,
Хай гром грыміць яшчэ мацней,
Ў крывавых муках мы народзім
Жыцьцё Бацькоўшчыны сваёй,
жыцьцё Бацькоўшчыны сваёй!

***М. Краўцоў***

Жыццё — закрэслены рахунак
Перад сусьветам.
Шукаць апошні ратунак —
Удзел паэтаў.

Удыхнуць паветра небясьпечна.
Жыцьця — на подых...
Шукаць імгненнае сустрэчы —
Удзел самотных.

Так і жывем — гадзіны, дні
У намаганьнях
Застацца жыць, бо паміраць —
Удзел каханьня.

* * *

Крывое шкло
Крывёй сплыло.
Далоні ў шнарах —
Да сьвятла.
Апошні крок.
Дала зарок:
Праз шкло і — ўніз.
Жыла, была,

Хацела жыць,
Хацела быць.
Спакой дарэмна
Што шукаць!
Глухі ўдар
Разьбітых мар
Ня прывядзі вам Бог
Спаткаць!

***Люба Падзьвігіна***

*Віцебская суполка моладзі «Верас» — гэта:*

- любоў да Беларусі і роднага краю;
- вывучэнне гістарычнай спадчыны і культурных здабыткаў;
- беларуская мова ўсюды;
- літаратура і паэзія Беларусі;
- свабода і воля...

**Кантактуйце — ВАС ЗРАЗУМЕЮЦЬ!**

Тэл.: 641-358 (Юрась); 210-727 (Яраслаў)
e-mail: vsm@veras.f2s.com
Адрас: Віцебск, 210032, а/с 29-А

Радыя вітаць вас на старонках ужо чацьвёртага нумару нашага «Вераса». Як вы, пэўна, прыкмецілі, трохі зьмяніўся стыль вёрсткі. Спадзяемся, ён прыйдзецца вам даспадобы. Як звычайна, чакаем ад вас водгукаў і прапаноў па адрэсах, што прыведзеныя ніжэй. Таксама просім дасылаць нам свае артыкулы, вершы, цікавыя фоткі, проста навіны. Мы абавязкова іх надрукуем. Напрыканцы хацелася б паведаміць, што рэдакцыя з задавальненьнем уступае ў дыскусіі з чытачамі па электроннай пошце. Пішыце!

Бюлетэнь **"ВЕРАС"**
*Рэдактары:* Яраслаў Манцэвіч, Андрэй Парфёнаў
*Паштовыя адрасы:* gazeta@veras.f2s.com; Віцебск, 210032, а/с 29-А
*Заснавальнік:* Віцебская суполка моладзі "Верас" (vsm@veras.f2s.com). *Падтрымка:* USIS
*Выдавец:* Віцебскі цэнтар моладзевых ініцыятываў "Контур". *Друк:* ВА Фонда імя Л. Сапегі
*Наклад* 250. На правах рукапісу. Дзеля ўнутранага карыстання. **Распаўсюджваецца бясплатна.**